Пралетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# ДЗЕСЯЦЬ ГОД

## БЕЛАРУСКАЙ САВЕЦКАЙ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ РЭСПУБЛІКІ

Матар'ялы для дакладчыкаў



...Б

Менск 1928

Пралетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# ДЗЕСЯЦЬ ГОД БЕЛАРУСКАЙ САВЕЦКАЙ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ РЭСПУБЛІКІ

(Матар'ялы для дакладчыкаў)

ВЫДАНЬНЕ ЦК КП(б)Б
МЕНСК — 1928

## УСТУП.

Дзесятую гадавіну існаваньня БССР пралетарыят і працоўныя масы нашае краіны сустракаюць ва ўмовах разгорнутага сацыялістычнага будаўніцтва, як у галіне гаспадаркі нашае краіны, так і ў галіне культуры. За мінуўшыя 10 год, Савецкая Беларусь адбудавала сваю гаспадарку, прычым усё больш яскрава вызначаецца больш хуткі тэмп росту прамысловасьці ў нашай да гэтага часу пераважна сельскагаспадарчай краіне. Удзельная вага прамысловасьці цяпер большая, чым у даваенны час. Роўналегла гэтаму працэсу ідзе і рост фабрычна-заводзкага пралетарыяту ў БССР. Сярод фабрычна - заводзкага пралетарыяту, расьце ўсё больш удзельная вага беларускага пралетарыяту, што гаворыць за тое, што Савецкая Ўлада ўцягвае ў прамысловасьць усё больш і больш рабочае сілы з беларускае вёскі, лішнія рабочыя рукі, якія да вайны прымушаны былі эміграваць у пошуках работы за межамі краіны.

На фоне росту сельскае гаспадаркі і прамысловасьці, на фоне росту ўсяе народнае гаспадаркі, да Х-й гадавіны БССР неабходна адзначыць вялізарны рост палітычнае сьвядомасьці рабочых і сялянскіх мас нашае краіны, значны рост культурнасьці.

Нацыянальныя меншасьці, якія згрупаваны галоўным чынам у гарадох і мястэчках Савецкае Беларусі, уцягнуты ў агульнае сацыялістычнае будаўніцтва Савецкае Беларусі, як па лініі разьвіцьця культуры на сваёй роднай мове, так і па лініі эканамічнага будаўніцтва, што асабліва яскрава вызначаецца па лініі перасяленьня яўрэйскага местачковага насельніцтва на зямлю і ўцягваньня ў прамысловасьць нароўні з беларускімі працоўнымі, працоўных усіх іншых, якія насяляюць БССР, нацыянальнасьцяй.

Усе дасягненьні, як і само існаваньне БССР поўнасьцю зьвязана з пераможнаю пралетарскаю Кастрычнікаваю Рэвалюцыяй і з цесным супрацоўніцтвам нашае рэспублікі з другімі пралетарскімі рэспублікамі, якія ўваходзяць у Саюз ССР. Усе перамогі працоўных Савецкага Саюзу, як і ўсе цяжкасьці якія імі перажываюцца, зьяўляюцца нашымі перамогамі і цяжкасьцямі.

Той вялізарны ўздым вытворчых сіл, які зьяўляецца вынікам напруджанага тэмпу прамысловага будаўніцтва ў БССР, канечне, поўнасьцю залежыць ад тае братняе дапамогі, якую Савецкі Саюз дае нашай Рэспубліцы. Сваімі ўласнымі сіламі мы-б не змаглі перамагчы таго старцаўскага ўзроўню і адсталасьці нашае гаспадаркі, якія былі створаны ўсёй папярэдняй гісторыяй нашае краіны і палітыкай царскага ўраду. Труднасьці, якія мы перажываем разам са ўсім Саюзам, грунтуюцца менавіта ў той хуткасьці росту, у тым напруджаньні, з якім мы вытвараем рэканструкцыю ўсяе нашай народнае гаспадаркі. У барацьбе з капіталістычнымі элемэнтамі праз зьдзяйсьненьне нязьменнага цьвёрдага курсу на індустрыялізацыю краіны, на калектывізацыю сельскае гаспадаркі і гэтыя труднасьці будуць пераможаны. І пралетарыят БССР разам з пралетарыятам усяго Саюзу, пад кіраўніцтвам нашае Камуністычнае Партыі—павядзе краіну да перамогі сацыялізму.

---

# I. ГІСТАРЫЧНАЯ ДАВЕДКА АБ БССР.

1. Кастрычнікавая Рэволюцыя абвясьціла „права нацый на самавызначэньне“. Дэклярацыя праў працоўных і эксплёатуемага народу гаворыць: „Імкнучыся стварыць сапраўды свабодны і дабраахвотны, а бязумоўна тым больш поўны і моцны саюз працоўных клясаў усіх нацый Расіі, III-й зьезд Саветаў абмяжоўваецца ўстанаўленьнем каранных пачаткаў фэдэрацыі Савецкіх Рэспублік Расіі, надаючы рабочым і сялянам кожнай нацыі прыняць самастойнае рашэньне на сваім уласным паўнамоцным савецкім зьезьдзе: ці жадаюць яны і на якіх асновах удзельнічаць у фэдэрацыйным урадзе і ў астатніх фэдэрацыйных савецкіх установах“.

Але імпэрыялістычная вайна і акупацыя нямецкім войскам Беларусі і Украіны, якая яшчэ ня скончылася, а потым грамадзянская вайна — затрымлівалі ператварэньне гэтага прынцыпу ў жыцьцё. Толькі з наступам рэволюцыі ў Нямеччыне і перамогаю Савецкае ўлады ў грамадзянскай вайне, прынцып: „права нацый на самавызначэньне, ажно да аддзяленьня“, становіцца непарушнай рэальнасьцю і праводзіцца ў жыцьцё.

2. Толькі ў канцы 1918 г. з вызваленьнем тэрыторыі Беларусі ад немцаў магла быць абвешчана незалежнасьць Беларускай Сацыялістычнай Рэпублікі. VI-я канфэрэнцыя Паўночна-Заходніх Арганізацый РКП, якая адбылася тады выказалася за самавызначэньне Беларусі, абвясьціўшы сябе першым зьездам Камуністычнай Партыі Беларусі. 1-га лютага 1919 году стварыўся часовы, рабоча-сялянскі ўрад Беларусі, які выпусьціў у той-жа дзень маніфэст аб абвяшчэньні незалежнасьці БССР. Створаны ўрад зараз-жа ўступіў у цесную фэдэрацыйную сувязь з РСФСР. Ён праіснаваў два месяцы, а потым па пастанове зьезду саветаў, Савецкая Беларусь аб'ядналася з Літоўскай Савецкай Рэспублікай, стварыўшы Літоўска-Беларускую Савецкую Рэспубліку (Літбел) і новы ўрад. Але і гэты ўрад праіснаваў нядоўга. 19 красавіка белапалякамі была захоплена сталіца Літбелу Вільня, а ў жніўні таго-ж году і другая сталіца Літбелу—Менск.

Беларусь падзяліла ўдзел акупаванага белапалякамі краю і перажыла ўсе жахі акупацыйнага ваеннага рэжыму Пілсудзкага. Кампартыя была загнана ў падпольле. У Беларусі пачаўся масавы партызанскі рух, які дасягнуў у асаблівасьці шырокіх памераў у сярэдзіне 1920 году. 11 ліпеня 1920 году Беларусь была вызвалена ад белапалякаў рабоча-сялянскай Чырвонай Арміяй і зноў абвешчана яе незалежнасьць, цяпер ужо амаль у яе этнографічных межах. Але няўдачы Чырвонае Арміі пры наступе на Варшаву прывялі да заключэньня Рыжскага міру, па якім ад Савецкай Беларусі была адрэзана яе Заходняя частка, якая адышла пад Польшчу.

3. Вайна пакінула ў Беларусі вялізарныя зруйнаваньні гарадоў і ўсяе народнае гаспадаркі, якія не маглі быць па сканчэньню вайны хутка адбудаваны, у выніку разьвіцьця на тэрыторыі Беларусі палітычнага бандытызму, які прыпыніў работу па мірнаму будаўніцтву, ажно да 1922 году.

Толькі з гэтага часу ў БССР пачынаецца адбудоўчы працэс. Да 1924 году робіцца ясным, што ў палітыка-эканамічных і культурна-нацыянальных інтарэсах разьвіцьця Беларусі, (якая складалася тады з 6 паветаў б. Менскай губэрні), яе межы павінны быць пашыраны. У 1924 годзе адбылося першае ўзбуйненьне Беларусі, па якому да яе адышлі 4 паветы б. Віцебскай, 4—б. Магілёўскай і 2 паветы б. Смаленскай губэрні. Узбуйненьне Беларусі было буйнейшай падзеяй у яе дзяржаўным жыцьці. У ім знайшла сабе выражэньне нацыянальная палітыка Камуністычнай Партыі.

У 1926 годзе было вытварана другое ўзбуйненьне Беларусі, па якому да яе былі далучаны Гомельскі і Рэчыцкі паветы, былой Гомельскай губэрні. Абудвы ўзбуйненьні зьявіліся прыкладам правільнай палітыкі Кампартыі, якая дала магчымасьць вольнага палітыка-эканамічнага і культурна-нацыянальнага разьвіцьця Беларусі.

## II. МІЖНАРОДНАЕ СТАНОВІШЧА.

1. X гадавіну свайго існаваньня БССР сустракае ва ўмовах надзвычайнага абвастрэньня міжнародных адносін, як па лініі адносін паміж капіталістычнымі дзяржавамі і Савецкім Саюзам, так і па лініі адносін паміж імпэрыялістычнымі дзяржавамі і калёніямі, ці паўкалёніямі, і капіталістычнымі дзяржавамі паміж сабой, што ставіць у парадак дню небясьпеку вайны, як актуальнейшую проблему.

2. Капіталізм у працягу гэтых 10 год здолеў залячыць тыя раны, якія яму нанесла імпэрыялістычная вайна 1914-19 г.г. і пралетарскія рэволюцыі. Ён дасягнуў даваеннага ўзроўню

вытворчасьці, прычым асобныя краіны, як напрыклад Злучаныя Штаты Паўночнае Амэрыкі, далёка за сабой пакінулі гэты ўзровень. Шляхам шалёнага наступу на рабочую клясу: зьніжэньне заработнай платы, павялічэньне рабочага дню, адмена сацыяльных заваёў, увядзеньне рацыяналізацыі вытворчасьці, якая ў асобных краінах набыла форму сапраўднае тэхнічнае рэволюцыі, капіталізму ўдалося дасягнуць часовае, нямоцнае, частковае стабілізацыі. Але бясспрэчныя посьпехі, якія капіталізм мае ў галіне стабілізацыі, прывялі да ўзьнікненьня новых і да надзвычайнага абвастрэньня, старых супярэчнасьцяў капіталістычнага ладу. Гэтае абвастрэньне клясавых супярэчнасьцяў, мае сваё выражэньне ў вялізарных забастовачных баёх паміж працай і капіталам, у палявеньні рабочых мас, у падзеньні ўплыву згоднікаў і сацыял-рэфармістых, у росьце уплыву камуністычных партый.

3. Разам з абвастрэньнем унутраных супярэчнасьцяй калёсальна абвострыліся і міжнародныя ўзаемаадносіны. Гэтае абвастрэньне міжнародных узаемаадносін ідзе па трох лініях: 1) абвастрэньне адносін паміж капіталістычнымі дзяржавамі, у першую чаргу паміж Злучанымі Штатамі Паўночнае Амэрыкі, якая надзвычайна абагацілася на вайне, надзвычайна разгарнула свой вытворчы апарат і Англіяй, якая з вайны вышла патропанай з адсталым вытворчым апаратам. Вакол гэтых двух драпежнікаў, якія змагаюцца за паўнату ўлады над капіталістычным сьветам групуюцца ўсе іншыя імпэрыялістычныя дзяржавы, супярэчнасьці паміж каторымі ў канечным ліку так ці інакш зьвязаны з разьвіцьцём барацьбы паміж двума волатамі капіталістычнага сьвету; 2) абвастрэньне адносін паміж імпэрыялістычнымі дзяржавамі і колёніяльнымі і паўколёніяльнымі народамі, якія праснуліся да жыцьця пад уплывам пралетарскае рэволюцыі ў Расіі; 3) урэшце самыя сур'ёзныя, глыбокія і непрымірымыя супярэчнасьці паміж усім капіталістычным сьветам і Савецкім Саюзам Сацыялістычных Рэспублік.

4. Гэта апошняя супярэчнасьць, якая нараджае жорсткую варожасьць капіталістычных дзяржаў да краіны пралетарскай дыктатуры, узмацняецца па меры росту рэволюцыйных настрояў працоўных мас у капіталістычных краінах і ў калёніях. Буржуазія ўсяго сьвету яўна ведае, што аднэю з асноўных прычын палявеньня працоўных мас зьяўляюцца дасягненьні сацыялістычнага будаўніцтва ў Савецкім Саюзе. Таму сусьветная буржуазія імкнецца ўзброенаю рукою зьнішчыць СССР, як абшар сусьветнае рэволюцыі і гэтым паслабіць сусьветны рабочы рух і прыпыніць нарастаньне пралетарскае рэволюцыі ў сябе.

5. Зброяй імпэрыялізму ў падрыхтоўцы вайны зьяўляецца сусьветная сацыял-дэмократыя, якая даўно ператварылася ў контр-рэволюцыйную сілу, ў агэнта буржуазіі ў рабочай клясе, зьяўляецца галоўнаю апораю буржуазіі. Яна абманьвае рабочыя масы ілжывымі выразамі аб дэмократыі і сацыялізму. Яна стала усясьветнай штрэйк-брэхерскай арганізацыяй, яна дапамагае ашукваць і ўціскаць прыгнечаныя колёніяльныя і паўколёніяльныя народы, яна распаўсюджвае ўсялякія злосныя выдумкі брахню і паклёп на адзіную краіну пралетарскае дыктатуры і сацыялізму, які будуецца ў СССР, прыкрываючы усё гэта сваё здрадніцтва ў адносінах да рабочае клясы, і сацыялізму—сацыялістычнай балбатнёй.

6. Савецкі Саюз вядзе цалкам мірную палітыку. Урад Савецкага Саюзу ня мінуў ніводнага выпадку, каб ня толькі дэкляраваць свае мірныя імкненьні, але каб даказаць іх на справе. Савецкі Ўрад прапанаваў усім суседнім дзяржавам заключэньне догавара аб ненападзе і гандлёвых догавараў. У Жэнёве прадстаўнікі Савецкага Ўраду прапанавалі праэкт безадкладнага, усеагульнага і поўнага разброеньня, а таксама, калі гэты першы праэкт быў адхілены прадстаўнікамі імпэрыялістычных дзяржаў, другі праэкт паступовага і частковага разброеньня. І гэты праэкт быў сабатаваны прадстаўнікамі буржуазных краін. Тое-ж самае тычыцца і догавараў аб ненападзе.

7. Да сёняшняга дню фашысцкая Польшча, якая мяжуе з намі на працягу тысячы вёрст, не жадае заключыць з намі ні догавара аб ненападзе, ні гандлёвага догавару. Гэта не выпадкова. Фашысцкая Польшча імкнецца да пашырэньня сваіх граніц шляхам новых захопаў і прыгнечаньня новых мільёнаў працоўных. Ужо цяпер у яе межах маецца звыш 40 проц. нацыянальных меншасьцяй, з якіх 30 проц. гэта прыгнечаныя украінцы і беларусы. Польскія паны мелі ў Савецкай Беларусі і Савецкай Украіне вялізарную масу маёнткаў, якія ў іх нацыяналізавала ў карысьць сялянскіх мас Кастрычнікавая Рэволюцыя. Польскія капіталістыя прагна паглядаюць на вялізарны рынак збыту і сыравіны ў Савецкай Беларусі і Украіне. У Польскім друку раздаюцца галасы, што беларускае пытаньне ў Польшчы можна будзе выращыць толькі тады, калі Менск і Віцебск будуць знаходзіцца ў цэпкіх кіпцюрох польскага белага арла. Апрача гэтых унутраных фактараў, якія накіроўваюць замежную палітыку польскага фашызму ў бок шалёна-агалцелага мілітарызму, маецца і шэраг знадворных фактараў, якія штурхаюць фашысцкую Польшчу ў тым жа самым напрамку. Фашысцкая Польшча эканамічна і фінансава цалком залежыць ад сусьветнага фінансавага капіталу. Яе банкі зьяўляюцца фак-

тычна толькі філіямі французскіх і ангельскіх банкаў. Яе прамысловасьць у пераважнай ступені зьяўляецца ўласнасьцю французскага і ангельскага капіталу, яе армію арганізуюць афіцэры французскага гэнеральнага штабу, яе палітыку вызначае ангельскае Міністэрства Замежных Спраў, за яе эканамічным жыцьцём сочыць і кіруе Амэрыканскі фінансавы дарадчык.

Фашысцкая Польшча сьпешна ўзбройваецца і мілітарызуе сваё насельніцтва. Гэтая падрыхтоўка вайны ідзе па двух лініях: па лініі ідэолёгічнай апрацоўкі працоўных мас, шляхам усялякае брахні на Савецкі Саюз, шляхам сяўбы шовінізму ненавісьці да „большэвіі“, да „москалёў“, да „чырвоных імпэрыялістых“, з другога боку шляхам няшчаднага тэрору накіраванага супроць працоўных мас, бяз розьніцы іх нацыянальнасьці.

8. У цеснай сувязі з ваеннымі падрыхтаваньнямі фашызму, стаіць і яго нацыянальная палітыка ў Заходняй Беларусі і ў Заходняй Украіне. Ужываючы самы няшчадны і зьвярыны тэрор па адносіне да шырокіх працоўных і эксплёатуемых мас Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны, кідаючы ў турмы, на катаргу і ссылку лепшыя сілы рабочае клясы і рэволюцыйнага сялянства, руйнуючы няшчадна іх масавыя і эканамічныя, культурна-асьветныя і палітычныя арганізацыі, зачыняючы беларускія і украінскія школы, польскі фашызм адначасова імкнецца да таго, каб прыцягнуць на свой бок заможныя слаі беларускага і украінскага народу. Пры правядзеньні сваёй аграрнай палітыкі, фашысцкі ўрад дае дапамогу ня толькі польскаму пану і кулаку, але і беларускаму і украінскаму багацею.

Пераход беларускага і украінскага кулака, верхавіны беларускае і украінскае інтэлігэнцыі ў лягер фашызму, выклікаў цэлы шэраг хістаньняў і сярод асобных сераднякоў. Гэты пераход кулака ў лягэр фашызму, знайшоў адбітак у Заходняй Украіне, нават у шэрагах Камуністычнай Партыі, ад якой адкалолася група Васільківа, якая выступае супроць нацыянальнае палітыкі Савецкае ўлады і Камуністычнае партыі на Савецкай Украіне, ставячы вышэй пытаньне нацыянальнае, над пытаньнем клясавае барацьбы, рэволюцыйнага руху і інтэрнацыянальнага адзінства, гэтая група стала пасобнікам польскага фашысцкага ўраду ў падрыхтоўцы ўзброенага нападу на Савецкі Саюз.

Такую-ж ролю актыўнага дапаможніка ў падрыхтоўваемай вайне, як уся сусьветная сацыял-дэмократыя, вядуць сацыял-згодніцкія партыі Польшчы.

ППС і Яўрэйская партыя БУНД і „Поалей-Цыон“ адчынена ці пад маскай паказной апазыцыі садзейнічаюць ураду

ў зруйнаваньні арганізацыі рабочае клясы і ў падрыхтоўцы вайны.

9. Перад тварам гэтае ваеннае небясьпекі, працоўныя БССР разам з працоўнымі ўсяго СССР, павінны ўзмацніць сваю Чырвоную Армію, палепшыць работу Асо-Авіяхіму, узмацніць абараназдольнасьць краіны. Працоўныя БССР павінны быць гатовымі ў любую хвіліну даць адпор узброенаму нападу на Савецкі Саюз.

10. Супроць сіл фашысцкага лягеру, супроць аб'яднанага лягеру контр-рэволюцыі, у які ўваходзяць разам з прамысловымі і зямельнымі магнатамі Польшчы прадстаўнікі яўрэйскае, беларускае і украінскае буржуазіі, а таксама сацыял-згоднікі, бяз розьніцы нацыянальнасьцяй, выступаюць адзіным фронтам рэволюцыйныя рабоча-сялянскія масы. Рэволюцыйны рух шырыцца і расьце. Камуністычныя партыі мацнеюць. І калі супроць мірнай палітыкі СССР і супроць барацьбы сусьветнага пралетарыяту за мір, імпэрыялістычная вайна ўсё-ж выбухне, пралетарыят яе ператворыць у вайну грамадзянскую, у перамогу сусьветнага Кастрычніка.

Рабочая кляса і працоўныя масы Савецкага Саюзу, маюць моцнага і вернага саюзьніка ў тыле, свайго няпрымірымага ворага—сусьветнай буржуазіі, у твары рэволюцыйных рабочых і сялян. Гэтага саюзьніка, рабочыя і сяляне БССР маюць і ў Польшчы, у асобе рабочае клясы, працоўных і эксплёатуемых мас усяе Польшчы. Існаваньне гэтага саюзьніка зьяўляецца залогам далейшых перамог сацыялістычнага будаўніцтва БССР і СССР, зьяўляецца залогам перамогі пралетарскае рэволюцыі над капіталізмам ва ўсім сьвеце.

У дзень нашага вялікага сьвята рабочая кляса і працоўныя масы БССР яшчэ больш узмацняць сувязі братэрскае салідарнасьці з працоўнымі масамі і прыгнечанымі народамі ўсяго сьвету, якія пад пастаяннымі ўдарамі міжнароднай буржуазіі і фашызму, змагаюцца за вызваленьне ўсяго працоўнага чалавецтва, ад капіталістычнае няволі. І гэта сваё братэрскае яднаньне працоўныя масы БССР выкажуць актыўнай дапамогай сваёй, зарубежным барацьбітам рэволюцыі.

## III. ГАСПАДАРЧАЕ СТАНОВІШЧА БССР.

1. Палітыка царскага ўраду да акраін давела да таго, што на Беларусі зусім слаба была разгорнута прамысловасьць, меліся толькі некаторыя дробныя прадпрыемствы.

2. Імпэрыялістычная, а потым грамадзянская вайна канчаткова разбурыла і тую дробную гаспадарку, якая была. Савецкая Беларусь адстанаўленьне прамысловасьці павінна была пачаць амаль з нічаго.

Валавая прадукцыя прамысловасьці БССР на 22-23 г. у параўнаньні з 1913 г.:

| | 1913 г. | 1923 г. |
|---|---|---|
| Харчовая прамысловасьць . . | 8.755,0 т. р. | 7.857,0 т. р. |
| Здабываньне і апрацоўка матар'ялаў | 2.976,0 т. р. | 2.315,0 т. р. |

3. Тое самае мы маем у абсягу сельскай гаспадаркі. Знаходжаньне на тэрыторыі Беларусі франтоў, разбурыла сельскую гаспадарку: зьменшылася сяўбовая плошча, колькасьць рабочай жывёлы.

Становішча сельскай гаспадаркі на 21 г. у параўнаньні з 1913-16 г.:

| | | |
|---|---|---|
| Сяўбовая плошча | 1913 г.—2.101,2 т. д. | У 1921 г.—1.380.1 т. д. |
| Коняў | 1916 г.— 756,3 т. гал. | „ — 702,0 т. гал. |
| Быдла | 1916 г.—1.392,3 т. гал. | „ —1.359,0 т. гал. |

Вайна яшчэ больш разбурыла нашу і да таго адсталую прамысловасьць і сельскую гаспадарку.

4. З такой гаспадаркай са значным спазьненьнем, у параўнаньні з другімі рэспублікамі СССР, і ўступіла БССР у пэрыяд аднаўленьня. З кожным годам мы бачым усе большы ўзрост прамысловасьці, які ідзе вельмі быстрым тэмпам, асабліва ў першыя гады. Прычым, праходзіла ня толькі аднаўленьне, але і рэканструкцыя.

Па дадзеным ЦСУ аб даваеннай цэнзавай прамысловасьці ў 1913 г. было: 715 цэнз. прадпр., 504 установкі, 621 рухавік, моцнасьцю 21,2 тыс. лош. сілы, альбо 42,2 л. с. на ўстаноўку і 34,2 л. с. на рухавік. У 26-27 г. было: 198 уст., 333 рухавіка, моцнасьцю 23,35 тыс. л. с. альбо 118 л. сілы на ўстаноўку, 170 на рухавік, а па прамысловасьці СНГ БССР 176 л. с. на ўстаноўку, 100 лош. с. на рухавік. У 1927-28 годзе ўзрост рухавікоў на 9 проц., прычым сярэдняя моцнасьць рухавіка ў прадпрыемствах СНГБ дасягае 186 л. с.

Валавая прадукцыя прамысловасьці БССР у 1927-28 годзе дасягае 275,2 міл. рублёў, рост за 1 толькі год + 20,9%. Узрост у СССР + 16,5%.

Капітальныя ўклады толькі за апошнія 3 гады дасягаюць 33,3 м. руб.

5. Разьвіцьце прамысловасьці выклікала неабходнасьць фарсіраваньня вытворчасьці электра-энергіі. Апрача будаўніцтва раённай станцыі „Асінбуду“, працягвалася пашырэньне электрастанцый, асабліва ў сельскіх мясцовасьцях. Толькі за апошнія 3 гады капітальныя работы складалі суму 7485 тыс. р. у тым ліку на раёныя станцыі 3600 тыс. руб. Колькасьць электра-станцыяў са 155 у 25-26 г. дасягае 171 у 1927-28 г.

6. Пашыранае адстанаўленьне прамысловасьці выклікала буйны ўзрост гарадоў і выклікаў неабходнасьць пашырэньня жыльлёвага будаўніцтва. Забясьпечанасьць жыльлём у БССР заўсёды была вельмі малая: вайна і акупацыя яшчэ больш паглыбілі жылкрызіс.

Толькі за апошнія 3 гады выдадзена на жыльлёвае будаўніцтва (новыя будаўніцтва, адстанаўленьне, сталы і дробны рамонт) Выканкомамі 6702,5 тыс. руб. Жылкаапэрацыяй—5471 тыс. руб., Прамысловасьць—2001 тыс. руб., Чыгунка—3009 тыс. руб. агулам на жыльлёвае будаўніцтва і рамонт выдана 17193,5 тыс. руб.

7. Пашырэньне прамысловасьці выклікала ўзрост рабочае сілы: на 1/I—28 г. у прамысловасьці было занята 45.598 чал., з іх: у цэнзавай прамысловасьці—34026 чал., у саматужнай—11572 чал. супроць 30 з лішкам тыс. у 24 годзе. Колькасьць сяброў прафсаюзаў на 1/XI 1928 г. складае 236438 чал.

8. Узрастае таксама і заработная плата. Сярэдняя зарплата (месячная) у 1925-26 г. складала 50,39 руб., у 26-27—57,03 руб., у 27-28—61,83, узрост на 14%.

9. Адначасова ідзе і адстанаўленьне сельскай гаспадаркі, сяўбовая плошча павялічваецца, узрастае колькасьць жывёлы, павялічваецца валавая прадукцыя сельскай гаспадаркі. Гэты ўзрост ідзе ў напрамку ўсе большага разгортваньня пасеваў тэхнічных культур і кармавых траў.

Сяўбовая плошча ў пораўнаньні з 1913 г. складае 111,4%, пры чым выкарыстаньне сяўбовай плошчы палепшалася наступным чынам:

На 100 дзесяцін пасеву прыходзілася:

| | Зерна-вых | Тэхніч-ных | Картоп-лю | Траў |
|---|---|---|---|---|
| 1916 г. . . | 82,2 | 4,2 | 8,9 | 4,7 |
| 1925 г. . . | 79,1 | 4,7 | 12,1 | 4,1 |
| 1926 г. [1] . | 77,9 | 4,6 | 12,9 | 4,6 |
| 1927 г. . . | 76,2 | 5,0 | 13,4 | 5,4 |

[1]) Зьмяншэньне тэхкул. у гэтым годзе тлумачыцца зьніж. цэн на лён.

Павялічэньне жывёлагадоўлі:

| | Коні | Кароў | Авечак | Сьвіньняў |
|---|---|---|---|---|
| 1916 г. . . . . | 910,8 т. | 1585,0 т. | 1744,9 т. | 1838,0 т. г. |
| 1927 г. . . . . | 1122,1 т. | 2239,3 т. | 3239,8 т. | 2338,0 т. г. |
| Узрост у %% . . | 123,2 | 141,3 | 185,7 | 127,2 |

10. Усё-ж гэты тэмп узросту вельмі недастатковы і значна адстае ад тэмпу ўзросту нашае прамысловасьці. Асабліва адстае тэмп узросту таварнае часткі сельскай гаспадаркі, а ў некаторых галінах нават паменшаецца. Тлумачыцца гэта тым, што за пэрыяд пасьля кастрычніку сельская гаспадарка раздрабілася—колькасьць гаспадарак павялічылася на +41,5%, што выклікала зьмяншэньне забеспечанасьці зямлёй і скатом. На кожную гаспадарку ў 27-28 г. прыходзілася 4,5 дз. зямлі і 4,2 галоў ската супроць 4,9 дз. зямлі і 4,4 галоў ската ў 1916 г. Гэта азначае, што селянін больш сам ужывае, лепш жыве, у параўнаньні з даваенным часам. Акрамя гэтага, ідзе перабудова гаспадаркі. За кошт зьніжэньня адной часьці таварнай гаспадаркі ідзе павышэньне другой. (Гл. табл.).

Валавая прадукцыя сельскай гаспадаркі і яе таварная частка:

| Галіны | 1925—26 г. | | 1926—27 г. | | 1927—28 г. | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Валавая прадук. | Тавар. частка | Валавая прадук. | Тавар. частка | Валавая прадук. | Тавар. частка |
| Уся сел. гас. . | 598390,0 | 93511,6 | 672441,3 | 86495,9 | 744144,4 | 84728,0 |
| Расьліны . . | 359633,1 | 50318,8 | 408108,2 | 40517,2 | 438995,0 | 33402,5 |
| У тым ліку: | | | | | | |
| Зернавых . . | 133105,4 | 27153,7 | 123742,0 | 17457,0 | 139307,2 | 13503,3 |
| Тэхнічных. . | 23577,7 | 8762,6 | 15608,6 | 5720,8 | 20293,4 | 5058,0 |
| Картоплю. . | 67029,2 | 3729,9 | 85477,6 | 4794,7 | 86432,1 | 3825,4 |
| Гародніны і садоўніцтва | 25677,1 | 6451,9 | 35470,8 | 7002,9 | 35198,0 | 7201,0 |
| Жывёлагад. . | 225893,1 | 40328,0 | 251756,4 | 42848,3 | 290282,5 | 48420,2 |
| У тым ліку: | | | | | | |
| Мал. прад. . | 110134,7 | 9788,3 | 128927,9 | 11939,7 | 135201,0 | 12827,7 |
| Мяса . . . | 104692,8 | 23359,8 | 108791,7 | 23600,0 | 139277,6 | 26912,5 |
| Скуры . . . | 6200,8 | 4668,3 | 7849,2 | 5057,6 | 9027,0 | 5707,4 |
| Птушніцтва . | 9521,5 | 2447,8 | 11753,3 | 2764,2 | 13375,5 | 2211,3 |
| Сенажаці . . | 63370,2 | 3224,3 | 84558,0 | 3936,3 | 84250,8 | 2672,8 |

Раздробленасьць сельскай гаспадаркі выклікае вялікую перанаселянасьць, якая не знаходзячы сабе прыстасаваньня ў вёсцы ідзе ў горад, чым павялічвае колькасьць безпрацоўных.

11. Павялічваецца соцыялістычны сэктар у сельскай гаспадарцы, узрастае колькасьць саўгасаў, павялічваецца колькасьць калгасаў, павялічваецца таксама вытворчая каапэрыраванасьць вясковага насяленьня. Павялічваецца колькасьць контрактацыі.

Узрост калгасаў:

| | 21 г. | 24 г. | 27 г. | Заўвага: |
|---|---|---|---|---|
| Камун . . . | 29 | 44 | 48 | З агульнага ліку саўгасаў у 27 г. яўр. 124, на 14 т. гэктараў. |
| Сел.-гас. арцеляў | 55 | 266 | 292 | |
| Т-ваў сам. апрац. зямлі . . . | 26 | 68 | 76 | |
| Разам . | 109 | 378 | 416 | |

За апошні год арганізавана 548 аб'яднаньняў.

Якасны склад калгасаў:

| | 1925—26 г. | 1926—27 г. |
|---|---|---|
| Безьзямельн. сялян. | 36,0 | 31.5 |
| Малазямельн. сялян | 20.0 | 21.0 |
| Батракоў і рабочых | 35,3 | 39.5 |
| Служачых і саматуж. | 3,2 | 4.5 |
| Іншых . . . . . | 5,5 | 3.5 |

12. Расьце і спажывецкая каапэрацыя. Павялічваецца колькасьць пайнікаў як у горадзе гэтак і ў вёсцы. Павялічваецца паявы ўзнос. Палепшаецца праца каапэрацыі ў справе абслугоўваньня пайнікаў, зьніжэньня цэн, зьніжэньня накладных выдаткаў, рацыяналізацыі апарату.

| | Лік пайнікаў | | Лік організацыяў | | Лік крам |
|---|---|---|---|---|---|
| | У горадзе | У вёсцы | У горадзе | У вёсцы | |
| 1/X 1925 г. . . | — | 190500 | — | — | — |
| 1/X 1927 г. . . | 115439 | 378187 | 16 | 655 | 1832 |
| 1/XII 1928 г. . . | 164513 | 513270 | 16 | 580 | 1979 |

| | Сярэдняаплачаны пай | |
|---|---|---|
| | У горадзе | У вёсцы |
| 1/X 1927 г. . . . | 5 р. 90 к. | 2 р. 73 к. |
| 1/XII 1928 г. . . . | 9 р. 52 к. | 6 р. 09 к. |

Аднак у гэтым напрамку трэба дабіцца большага ўдзелу пайнікаў у працы самой каапэрацыі. Галоўным чынам, лавачных і каапэратыўных камісій.

13) Ня гледзячы на рост прамысловасьці і пашырэньне ўцягненьня ў прамысловасьць усё новых і новых рабочых, мы ўсё яшчэ маем вялікую колькасьць беспрацоўных. У 25-26 г. 24796, 26-27 г. 26221, 27-28 г. 27739. Гэта пры пасылцы на работы ў %% да ўсіх беспрацоўных у 1925-26 г. 14,2, 26-27 г. 19,9, 27-28 г. 27,2.

Найбольшая частка беспрацоўных складаецца з некваліфікаванай рабочае сілы—62,6% колькасьцю 17096 чал.

Ня гледзячы на рост беспрацоўных супроць 25-26 году на 9,6%, агульны прырост беспрацоўных у адносінах да агульнага ліку членаў саюзаў узрастае з 8,8% на 1-X-25 г. да 13,1% на 1-X-27 г.

З боку ўраду прынят рад мерапрыемстваў у дзеле барацьбы з беспрацоўем у напрамку аказаньня дапамогі беспрацоўным (працоўны і натуральны, кваліфікацыя і перакваліфікацыя беспрацоўных і рэгуліраваньня рынку працы).

Усяго ў калектывах знайшла месца наступная колькасьць беспрацоўных:

| | 1925-26 г. | 1926-27 г. | 1927-28 г. |
|---|---|---|---|
| | 7100 | 7181 | 8545 |
| У проц. | 100 | 101,0 | 118,9 |

На грамадзкіх працах на працягу 6 летніх м-цаў 26-27 г. штодзенна працавала ў сярэднім 2800 ч. Выдана на гэтыя работы 958869 рублёў. У 1927-28 г. выдаткі на гэтыя-жа работы складаюць 1130 т. рублёў. Грашовую дапамогу атрымліваюць 12626 ч., атрымаўшыя 1500 т. рублёў. Апрача гэтага беспрацоўныя атрымліваюць дапамогу ад прафсаюзаў. Так за 1-ае паўгодзьдзе 1927 г. выдана дапамогі 36573 чал. 186000 р. сяр. дапамога 5 р., 09 к., у 2-м паўгодзьдзі выдана дапамогі 28535 ч. 186713 р. альбо 6 р. 54 к. на чал. і дарожнай дапамогі 28681 рубель.

14. У сфэры таваразвароту таксама мы бачым усё большае і большае павялічэньне долі дзяржавы і коопэрацыі і зьменьшаньне ролі прыватніка.

| ЗВАРОТ | у %% да ітогу | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Аптовы | | | Дробны | | | Усяго | | |
| | 1925-26 | 1926-27 | 1-я палов. 1927-28 | 1925-26 | 1926-27 | 1-я палов. 1927-28 | 1925-26 | 1926-27 | 1-я палова 1927-28 |
| Дзяржаўны . . | 54 9 | 45,9 | 38,5 | 8.6 | 9,5 | 10.0 | 30,3 | 24,8 | 23.8 |
| Каапэратыўны . | 38,1 | 50.8 | 59,2 | 45.1 | 51.2 | 61.5 | 41.8 | 51,1 | 60.4 |
| Прыватны . . | 7.0 | 3,3 | 2.3 | 46.3 | 39,3 | 28,5 | 27.9 | 24.1 | 15.8 |

Удзельная вага абагуленага сектара ва ўсім таваразвароце з 72,1% у 25-26 годзе ўзняўся да 84,2% у 27-28 г. У опце з 93,0%—97,8, а ў розьніцы 53,7%—71,5%.

15. Пры ўсім узросьце як прамысловасьці, так і сельскае гаспадаркі, мы аднак заўважаем некаторыя цяжкасьці, якія зьяўляюцца цяжкасьцямі росту. 1. Укладаньне вялікіх сродкаў у будаўніцтва, выпаданьне гэтых сродкаў з сфэры абароту і магчымасьць атрымаць эфект толькі праз некалькі год. 2. Зьмена геаграфіі ўраджайнасьці ў гэтым годзе (неўраджай на Украіне, адкуль Беларусь, як краіна спажывецкая пазаўсёды завозіла прадукты, і перанос гэтых загатовак у больш аддаленыя мейсца).

16. Усё гэта ставіць перад намі задачы ў далейшым: яшчэ больш разгортваць індустрыялізацыю нашай краіны, яшчэ шырэй разьвіваць тэмп разьвіцьця сельскай гаспадаркі, яе рэканструкцыі, накіраваньня яе ў сацыялістычныя рэчышчы, павялічэньне тэхнікі гаспадаркі, яе ўраджайнасьці і яе таварнасьці.

17. Справа індустрыялізацыі можа быць забясьпечена большым удзелам рабочае клясы ў справе рацыяналізацыі вытворчасьці, зьніжэньня сябекошту правядзеньня жорсткага рэжыму экономіі, што дасьць магчымасьць павялічваць зарплату рабочых.

## IV. САВЕЦКАЕ БУДАЎНІЦТВА.

1. У працягу свайго існаваньня пасьля Кастрычнікавай рэвалюцыі Савецкая ўлада прайшла тры этапы:

а) Першы этап—пэрыяд непасрэднага захопу ўлады. Галоўная задача—зламаць стары дзяржаўны апарат і замяніць яго новым, падавіць сапраціўленьне сваёй і міжнароднай буржуазіі. У гэты пэрыяд ня магло быць выстарчальнай сувязі месц з цэнтрам; кожны савет і выканком (у мясцох непасрэднай барацьбы—рэўком) павінен быў дзейнічаць самастойна і рашуча.

б) З пераходам да нэпу галоўнай задачай стала сацыялістычнае будаўніцтва і арганізацыя ўдзелу працоўных мас у гэтым будаўніцтве. Але пэўны час мэтады пэрыяду ваеннага камунізму і захаваўшыяся адмоўныя рысы дарэвалюцыйнага апарату (бюракратызм, п'янства, хабарніцтва) перашкаджалі рабоце савету ў новых абставінах. Гэта пераломны пэрыяд 21-24 году.

в) З 1924 году пачынаецца новая паласа—ажыўленьне саветаў, галоўным зьместам якога зьяўляецца набліжэньне дзяржаўнага апарату да мас, палепшаньне яго складу і работы прыцягненьнем новых кадраў рабочых і сялян і падгатоўка з іх кіраўнікоў розных галін сацыялістычнага будаўніцтва.

2. Работа па ўцягненьню працоўных да непасрэднага ўдзелу ў кіраўніцтве дзяржавай за апошнія гады ішла па шляху абраньня з кожным годам усё больш рабочых і сялян, вылучэньня іх на адказную кіруючую работу, уцягненьня ў савецкае будаўніцтва і выхаваньне праз рад прыводных пасоў, як сэкцыі гарсаветаў, камісіі сельскіх і местачковых саветаў, Інстытут прымацаваных дэлегатак, масавыя грамадзкія арганізацыі.

3. У канкрэтных лічбах розныя шляхі ўдзелу працоўных у савецкім будаўніцтве характарызуюцца так:

а) у мінулых перавыбарах саветаў на Беларусі ўдзельнічала больш як 1.151.000 чал., альбо каля паловы ўсіх маючых выбарчае права (апошніх каля 2.400.000 чал.) У гэтым ліку ўдзельнічала ў перавыбарах 341.000 жанчын (з 1.089.000 меўшых выбарчае права);

б) у члены і кандыдаты ўсіх саветаў і выканкомаў, сельскіх местачковых і раённых рэвізійных камісій было выбрана да 48.000 працоўных, у тым ліку каля 4.000 жанчын, а сёлета ў зьвязку з законам ЦВК, які дае магчымасьць пасылаць у сельскія местачковыя саветы 1 дэпутата ад 100 чалавек насельніцтва замест існаваўшай раней нормы 1 на 200 толькі па гэтых саветах мы будзем мець павялічэньне на лічбу прыблізна 16.000 чал.;

в) у камісіях сельсаветаў апошні год працавала каля 41.000 чалавек (замест 30-31 тысяча летась). З іх да 2.000 жанчын. У гэтым ліку членаў камісіі маецца да 22.000 актыву, які не ўваходзіць у выбарны склад саветаў (замест 13.000 летась);

г) у сэкцыях гарсаветаў працуе ўсяго каля 6.000 чал., з якіх таксама каля 2.000 не ўваходзіць у выбарны склад саветаў. Колькасьць жанчын у сэкцыях гарсаветаў розных гарадоў дасягае 17-28 проц.

Такім чынам па БССР толькі ў работу саветаў іх сэкцыі і камісіі ўцягнута ўсяго да 72.000 працоўных.

д) Апрача таго, у круглых лічбах працуе ў найбольш масавых грамадзкіх арганізацыях і іншых выбарных органах апрача савета: ва ўсіх органах КСУ—32.000 чал., нарзаседацелямі—30.000, страхупаўнаважанымі 13.500, ва ўсіх органаў спажывецкай каапэрацыі—39.000, у рабочай каапэрацыі—13.000, сельска-гаспадарчай каапэрацыі—18.000, у саматужнай каапэрацыі—1.000. У жаночыя дэлегацкія сходы ўцягнута—27.000 працоўных жанчын.

Разам з актывам саветаў увесь гэты актыў складае армію—235.000 чалавек, што дае ў стасунку да агульнага ліку выбаршчыкаў ў БССР (у мінулыя перавыбары іх было—2.000.000 з лішкай) больше—10 проц.

Пры гатым калі ўлічыць яшчэ камсамол, актыў прафсаюзаў, Мопру, Асо і гэтак далей, то паказаная лічба ўзрасьце ў шмат разоў.

е) Незалежна ад гэтага з ліку савецкага актыву рабочых і сялян пачынаючы з 1925 году вылучана на адказную кіруючую работу ў раённых акруговых і цэнтральных савецкіх установах больш 200 чалавек (сюды не ўваходзіць армія вылучэнцаў, вылучаных па прафсаюзнай лініі, якіх значна больш). З членаў ЦВК зараз у якасьці вылучэнцаў у цэнтральных установах працуе—16 чалавек рабочых ад верстака і сялян ад сахі. У апошнія часы вылучана на адказную акруговую і раённую работу значная колькасьць жанчын.

4. Яўляючыся самай шырокай дэмакратыяй для працоўных, саветы адначасова яўляюцца клясавымі органамі дыктатуры пролетарыяту, які, абапіраючыся на беднату ў саюзе

з серадняком падаўляе эксплёататараў, не дапускае да ўдзелу ў савецкім будаўніцтве непрацоўныя элементы.

Так з асоб, дасягнуўшых 18 год, пазбаўлена было ў мінулую выбарчую кампанію ў местачковых саветах 14 проц. замест 10,1 проц. у 1926 г. у неакруговых гарсаветах 12,8 пр. замест 7,8 проц. у 1926 годзе ў акруговых 8,8 проц. замест 4,5, у сельсаветах 1,3 проц. замест 0,8 проц.

5. Адначасна паляпшаўся склад выбраных у саветы і выканкомы:

а) у складзе акруговых гарсаветаў колькасьць рабочых на адміністрацыйна-гаспадарчых пасадах узрасла з 31,8 проц. у 1926 г. да 41,4 проц., у неакруговых—з 21,1 проц да 30,1 пр.

б) у райвыканкомах батракоў, с-г. рабочых замест 1 проц. у 1926 г.—2,1 проц. зволеных, інш. рабочых замест 10,0—11,3 проц. з зволеных ад падатку сялян—33,8 проц. у 1926 г. 14,2 проц.

г) у АВК выбрана 2 проц. батракоў і с-г. рабочых, а ў 1925 г. ня было; інш. рабочых 19,3 па вытворчасьці, і 7,2 на адміністрацыйна-гаспадарчых пасадах, а было ў 1925 г. 16,9 проц. усяго тых і іншых, а ў аслабаненых ад падатку сялян 30,2 проц.

6. У ЦВК рабочых на вытворчасьці было ў 1925 г. 6 пр.; у 1927 г. 14,9 проц.; усіх рабочых на вытворчасьці і батракоў, занімаючых адм. гас. пасады 42 проц.—у 1925 г., 48,9 проц.—у 1927 г.

7. У дзесятую гадавіну Савецкай Беларусі наш лёзунг павінен быць: пагалоўны ўдзел рабочых, работніц, батракоў, батрачак, беднаты ў перавыбарах у саветы. Яшчэ больш шырокае, больш масавае ўцягненьне серадмякоў у перавыбары. Выхоўваньне і ўцягненьне ў савецкае будаўніцтва, у барацьбу з бюрократызмам, з недахопамі і хваробамі работы саветаў, у барацьбу за пісьменнасьць, за культуру, за соцыялізм усё новых і новых пластоў рабочых, батракоў і працоўнага сялянства. Высоўваньне новых соцен і тысяч работнікаў з рабочых, батракоў і беднаты, асабліва працоўных жанчын на кіруючую работу ў саветах.

## V. НАЦЫЯНАЛЬНАЕ ПЫТАНЬНЕ І КУЛЬТУРА.

1. З самых першых дзён сацыялістычнага будаўніцтва БССР сустрэлася з вялікімі цяжкасьцямі гістарычнага мінулага краю. Гэтыя цяжкасьці, як вынікі царскай палітыкі, выражаліся ў гаспадарчай і культурнай заняпаласьці Беларусі. Працоўныя беларусы былі абмежаваны ў палітычных правох; беларуская культура была ў загоне; беларуская мова трэціравалася як хамская мова, беларусы наогул ня прызна-

валіся як нацыя. У такім-жа самым становішчы знаходзіліся працоўныя і іншых нацыянальнасьці, асабліва яўрэі, якія пры царызму зьяўляліся амаль зусім беспраўнымі істотамі і жорстка прыгнечваліся. Паміжнацыянальная розьнь і варожасьць укараняліся сярод усіх працоўных. Вось спадчына ад царызму і буржуазіі.

І вось чаму пралетарыят БССР пад кіраўніцтвам Кампартыі, побач з працай па замацаваньні кастрычнікаўскіх заваёў, разгортваньня і разьвіцьця сацыялістычнае гаспадаркі, павінен быў зьвярнуць сур'ёзную ўвагу на практычнае вырашэньне нацыянальнага пытаньня.

2. У гэтай галіне прышлося як першапачатковую задачу высунуць пытаньне беларусізацыі, пытаньне разьвіцьця беларускае пролетарскае культуры і ўцягненьня шырокіх пластоў працоўных беларусоў у розныя галіны нашага сацыялістычнага будаўніцтва. Вельмі шырока разгарнулася праца па практычным вырашэньні нацпытаньня пасьля ІІ-й Сэсіі ЦВК БССР VI-га скліканьня у ліпені 1924 году. Да гэтага часу шырока разгарнуць працу па вырашэньню нацпытаньня перашкаджала наяўнасьць змаганьня з контр-рэволюцыяй, белабандытамі і г. д.

Для абслугоўваньня дзяцей беларускага працоўнага насяленьня ў БССР у сучасны момант існуе 4725 чатырох гадовых школ, альбо 91,5 проц. усіх чатырохгодак і 216 сямігадовых школ, што складае 70,1 проц. усіх сямігодак. Усе гэтыя школы поўнасьцю працуюць на беларускай мове; руская мова ўведзена ў іх, як абавязковы прадмет выкладаньня, пачынаючы з 4-га году навучаньня.

Беларускія пэдагагічныя тэхнікумы і курсы па падрыхтоўцы настаўнікаў беларусізаваны поўнасьцю. Сельска-гаспадарчыя школы і ўсе іншыя тэхнікумы, прафшколы і рабфакі беларусізаваны ў сярэднім ад 60 да 80 проц. Маецца павялічэньне колькасьці студэнтаў-беларусоў, галоўным чынам, за лік дзяцей з працоўных сялянскіх сем'яў. Так, напрыклад, у Беларускай Сельска-Гаспадарчай Акадэміі ёсьць студэнтаў-беларусоў 70,8 проц., у БДУ—57.1 проц; у Беларускім Вэтэрынарным Інстытуце—76,2 проц. Павялічваецца таксама колькасьць навуковых працаўнікоў, якія праводзяць выкладаньне на беларускай мове. Але агульны процант беларусізацыі нашых Вузаў, які зараз дасягае прыблізна да 40 проц., зьяўляецца недастатковым і ў гэтай галіне трэба працу значна ўзмацніць, для чаго і ўжо прыняты адпаведныя меры.

Вялікія дасягненьні мы маем у справе разьвіцьця сеткі вышэйшых навучальных устаноў. У БССР у сучасны момант функцыянуе: Беларускі Дзяржаўны Унівэрсытэт, Беларуская сельска-гаспадарчая Акадэмія, Беларускі Дзяржаўны Вэтэ-

рынарны Інстытут, Навукова-Дасьледчы Інстытут Сельскае і Лясное Гаспадаркі імя Леніна, Камуністычны Унівэрсытэт імя Леніна. Асаблівую ролю ў справе разьвіцьця беларускае культуры адыгрывае Беларуская Акадэмія Навук, раней Інстытут Беларускай Культуры, заснаваны ў 1921 годзе.

3. Другая важная задача, якая стаяла перад партыяй і Савецкай уладай—гэта прыстасаваньне апаратаў усіх установаў да найлепшага абслугоўваньня працоўных усіх нацыянальнасьцяй; трэба было беларусізаваць апарат, перавесьці дзелаводзтва на беларускую мову, даўкамплектаваць апараты працаўнікамі, якія ведаюць умовы жыцьця нацменшасьцяй. Труднасьці ў гэтай рабоце былі надзвычайна вялікія: тут былі і праяўленьні вялікадзяржаўнага расейскага шавінізму, супраціўленьне з боку быўшых царскіх чыноўнікаў, якіх у спадчыну атрымаў наш апарат, тут былі і моманты праяўленьня шавінізму беларускага, і з боку іншых нацыянальнасцяй і г. д.

Ня гледзячы на гэтыя цяжкасьці, дзякуючы дапамозе і сьвядомасьці працоўных удалося да сучаснага моманту поўнасьцю беларусізаваць апараты ўсіх амаль установаў БССР. Адстаюць у гэтым кірунку гаспадарчыя ўстановы і ўстановы транспарту, а таксама і некаторыя грамадзкія арганізацыі. Зараз праца адпаведных органаў накіравана на паглыбленьне беларусізацыі. Усе нашыя апараты, шляхам забясьпечаньня адпаведнымі працаўнікамі, прыстасаваны таксама для абслугоўваньня на роднай мове працоўных іншых нацыянальнасьцяй.

4. За гэтыя дзесяць год існаваньня БССР значна ўзрасла беларуская літаратура. Выкаваліся ў Савецкай кузьні дзесяткі маладых пралетарскіх пісьменьнікаў. З 17 газэт, выходзячых у БССР, 9 зьяўляюцца беларускімі. Шырока разгарнулася выдавецкая справа, перакладаюцца творы Леніна на беларускую мову. Трэба яшчэ шмат зрабіць і ў справе выданьня Марксыцка-Ленінскай, а таксама палітычна-грамадзкай папулярнай літаратуры на беларускай мове.

5. Палітыка-асьветныя ўстановы, як хаты-чытальні, клюбы таксама разгарнулі сваю працу на беларускай мове. Горш абстаіць справа з ліквідацыяй няпісьменнасьці на беларускай мове. Існуючыя лікпункты па сваёй колькасьці і якасьці працы ня могуць абхапіць значны процант няпісьменных працоўных беларусоў. Трэба сказаць, што грамадзкая арганізацыя „Прэч Няпісьменнасьць“, якая нашай савецкай грамадзкасьцю заклікана для шырокага ўдзелу ў рабоце па ліквідацыі няпісьменнасьці сярод дарослых працоўных і якая,

бязумоўна, павінна тут адыграць вялізарную ролю, са сваёй задачай спраўляецца слаба, што адбіваецца на агульнай рабоце па ліквідацыі няпісьменнасьці, асабліва сярод сялян і сялянак.

6. У БССР існуюць два беларускіх дзяржаўных тэатры і адзін вандроўны беларускі дзяржаўны тэатр, які прыстасаваўся амаль выключна для вёскі.

7. Ня меншая ўвага ўдзялялася разьвіцьцю работы сярод працоўных нацменшасьцяй.

З мэтай падрыхтоўкі настаўнікаў у БССР існуе тры яўрэйскіх пэдагагічных тэхнікумы і адзін польскі, пры ім-жа 2-х гадовыя пэдагагічныя курсы. Маецца таксама яўрэйская сэкцыя пры Пэдфаку Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту. Пры Беларускай Акадэміі Навук існуюць яўрэйскі і польскі сэктары, латыская сэкцыя і катэдра гісторыі Літвы, якія займаюцца вывучэньнем пытаньняў гісторыі быту і наогул культуры гэтых нацыянальнасьцяй.

У БССР маецца таксама яўрэйскі Дзяржаўны тэатр; прымаюцца крокі да арганізацыі польскага і яўрэйскага вандроўных тэатраў.

Шырока разьвілася культасьветная праца. Амаль пры кожным нацсавеце працуе хата-чытальня. У больш буйных гарадох БССР ёсьць нацыянальныя клюбы, напрыклад, у Менску, Віцебску. У гарадох, дзе спэцыяльных нацклюбаў няма, агульныя клюбы прыстасаваны для абслугоўваньня рабочых нацменшасьцяй на іх роднай мове. Праводзіцца ліквідацыя няпісьменнасьці на роднай мове нацменшасьцяй, але і тут маюцца ў рабоце вялікія недахопы.

Падыходзячы да выдавецкай справы, мы і тут бачым значныя дасягненьні сярод нацменшасьцяй. Выпушчаная літаратура на мовах нацменшасьцяй у плянах працы Белдзяржвыдавецтва з кожным годам займае ўсё больш месца. Выдавецкія пляны Белдзяржвыдавецтва прадугледжваюць наступныя процантныя суадносіны выдаваемай літаратуры: на беларускай мове—70 проц., яўрэйскай—15 проц., польскай—5 проц., расейскай—8 проц., латыскай і літоўскай—2 проц.

На расейскай мове ў БССР выпушчаюцца 4 газэты, на яўрэйскай—2, на польскай—1, на літоўскай—1.

8. Побач з мерапрыемствамі культурнага характару сярод працоўных нацменшасьцяй праведзена таксама праца па палепшаньні іх эканамічнага становішча, гэтакімі мерапрыемствамі зьяўляюцца надзяленьне беднякоў і бязьзямельных зямлёй за лік абрэзкі палупрацоўных гаспадарак, з запфонду і г. д.

За тры гады было перадана для працоўнага карыстаньня яўрэйскаму насельніцтву 21.456 гэктароў, на якой плошчы ўпарадкавана 1996 сем'яў. Сярод яўрэйскага земляробства значнае месца займае калектывізацыя. У БССР існуе каля 250 яўрэйскіх сельска-гаспадарчых калектываў. Трэба сказаць, што пераважная большасьць яўрэяў, якія ўпарадкаваліся на зямлі аказаліся добрымі гаспадарамі і гаспадарку вядуць, карыстаючыся апошнімі дасягненьнямі нашае агранаміі. Побач з земляўпарадкаваньнем яўрэяў у БССР, праведзена таксама праца па перасяленьні іх у Крым, Біра-Біджан і іншыя раёны Саюзу ССР.

Другім важным мерапрыемствам у справе прыстасаваньня дэклясаванага насельніцтва мястэчак да прадукцыйнай працы, а таксама забясьпечаньня работай працоўных пластоў мястэчак зьяўляецца гаспадарчае ўпарадкаваньне мястэчак, якое на падставе пастановы Ураду БССР ужо праводзіцца ў 9 мястэчках. Гаспадарчае ўпарадкаваньне мястэчак выражаецца ў разьвіцьці ў іх саматужных промыслаў, пераводу часткі насельніцтва на сельскую гаспадарку, разьвіцьці мясцовай прамысловасьці.

9. Падагульваючы працу па практычнаму ажыцьцяўлньні нацпалітыкі, неабходна са здавальненьнем адзначыць значныя дасягненьні.

Але зроблена далёка яшчэ ня ўсё. Перад намі яшчэ шмат работы і цяжкасьцяй у галіне поўнай рэалізацыі прынцыпаў Кампартыі па нацпытаньні.

Уся нацыянальная работа праводзілася ў бок перамогі культурнай і эканамічнай заняпаласьці працоўных, у бок зьнішчэньня спадчыны царызму, паміжнацыянальнай розьні і варожасьці, разьвіцьця інтэрнацыянальнага выхаваньня і ўтварэньня з працоўных усіх нацыянальнасьцяй адзінай сям'і для дружнага і сумеснага будаўніцтва сацыялізму ў нашай краіне.

## ПАРТЫЯ.

1. Ва ўмовах Беларусі, дзе рабочая кляса (за адсутнасьцю буйнай прамысловасьці) менш згрупавана, дзе значная частка яе яшчэ не парвала сувязі з сельскай гаспадаркай, роля і задачы камуністычнай партыі, як кіраўніка пралетарыяту, яшчэ больш адказныя.

Пад яе кіраўніцтвам рабочая кляса перамагала і пераможа тыя асаблівыя цяжкасьці, якія маюцца на шляху сацыялістычнай перабудовы БССР.

Моц КП(б)Б, як атраду УсеКП,—у яе шчыльнай сувязі з шырокімі пластамі рабочае клясы.

2. Паказальнікам моцы партыі зьяўляецца яе колькасны ўзрост. Аб узросьце КП(б)Б магчыма судзіць па наступным лічбам:

| | Членаў і кандыдатаў КПБ | |
|---|---|---|
| На 1 лістапада 1924 г. (або ўжо пасьля правядзеньня Ленінскага закліку). Было . . . . . . | 10652 | чалавекі |
| На 1-е лістапада 1925 году . . . . | 15075 | " |
| " " " 1926 . . . . . . | 20383 | " |
| " " ліпеня 1927 . . . . . . | 25776 | " |
| " " " 1928 . . . . . . | 31713 | " |
| " " кастрычн. 1928 . . . . . | 32529 | " |

*Заўвага:* Без камуністых Чырвонае Арміі.

З 1924 па 1928 год КПБ павялічылася амаль у 3 разы.

3. Для пралетарскай партыі мае значэньне ня толькі яе колькасны, але і яе якасны ўзрост—яе сацыяльнае становішча.

Сацыяльны склад КПБ:

| | Рабочых | Сялян | Служачых і інш. |
|---|---|---|---|
| На 1-е студзеня 1927 году . . | 53,2 проц. | 25,4 проц. | 21,4 проц. |
| " " кастрычн. 1928 " . . | 59,3 " | 23,2 | 17,5 " |

Такім чынам мы бачым, што КПБ зьяўляецца рабочай партыяй ня толькі па сваім мэтам, а і па свайму складу.

Рабочая кляса ў цяжкія моманты жыцьця партыі і ўлады давярала партыі і аддавала сваіх лепшых прадстаўнікоў у яе рады.

За гэты час узрасла і колькасьць рабочых ад варштату.

| | Рабочых ад варштату | Сялян ад сахі |
|---|---|---|
| Ня 1-е кастрычніка 1927 году . . . . | 30,2 проц. | 11,4 проц. |
| " " " 1928 . . . . . | 37,2 " | 12,3 " |

4. Пэрыод социялістычнай рэконструкцыі і тыя цяжкасьці, якія зьвязаны з гэтым пэрыодам, задача барацьбы з ухіламі ад ленінскай лініі, прымірэнцтвам да іх і з рэштками трацкісцкай апазыцыі і асабліва з правым ухілам, неабходнасьць яшчэ большай актывізацыі мас і разгортваньня самакры-

тыкі ў мэтах барацьбы з бюрократызмам, з недахопамі нашага соцыялістычнага будаўніцтва і г. д. высоўваюць перад партыяй задачу павялічэньня яе рабочага ядра, задачу вярбоўкі ўсё больш шырокіх пластоў клясава-сьвядомых і вытрыманых пралетарыяў у партыю, а таксама задачу ачысткі партыі ад нягодных элемэнтаў. У 1930 годзе склад рабочых ад варштатаў у партыі павінен быць давездзен да 50 %.

Узмацненьне пралетарскага ядра ў партыі яшчэ больш узмоцніць ідэолёгічную вытрыманасьць і адзінства, узмацніць яе ў барацьбе з рознымі ўхіламі і хістаньнямі, сувязь паміж рабочай клясай і яе авангардам компартыяй—зробіцца яшчэ шчыльней і рабочая кляса, абапіраючыся на беднату ў саюзе з серадняком, пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі, павядзе савецкую краіну да новых пабед соцыялізму.

# ЗЬМЕСТ

Стар.

Уступ . . . . 3

I. Гістарычная даведка аб БССР . . . . 5

II. Міжнароднае становішча . . . . 6

III. Гаспадарчае становішча БССР . . . . 10

IV. Савецкае будаўніцтва . . . . 17

V. Нацыянальнае пытаньне і культура . . . . 19

VI. Партыя . . . . 23